

# Краязнаўчая газета

№ 35 (196)
Верасень 2007 года
Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:



## Нашы віншаванні

*«Краязнаўчая газета» шчыра віншуе калектыў Нацыянальнага Полацкага гісторыка-краязнаўчага музея-запаведніка з 40-годдзем з часу заснавання.*

*Плёну вашай добрасумленнай асветніцкай працы жадаем, новых навуковых адкрыццяў на старажытнай Полаччыне чакаем, трымаць творчую сувязь з «Краязнаўчай» раім.*

## На тым тыдні...

• У Доме Дружбы **5 верасня** прайшоў вечар, прысвечаны 415-годдзю чэшскага філосафа, гуманіста і педагога Яна Амоса Каменскага. Мерапрыемства было арганізавана Беларускім таварыствам дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі пры ўдзеле Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі Музыкі. Таму прысутныя змаглі пачуць чэшскую музыку XVI – XVIII стагоддзяў.

• **З 8 па 14 верасня** ў Брэсце прайшоў **XII Міжнародны тэатральны фестываль «Белая вежа»**. Сёлета ў ім упершыню прынялі ўдзел тэатры з Венесуэлы, Люксембурга, Даніі і Таджыкістана. Усяго на тэатральных пляцоўках гледачы змаглі пабачыць 40 драматычных і лялечных калектываў з 25 краінаў свету, у тым ліку з Вялікабрытаніі, Польшчы, ЗША, Іспаніі, Расіі, Сербіі, Малдовы, Германіі, Балгарыі, Латвіі, Украіны, Эстоніі, Грузіі.

• **11 верасня** ў Мінску быў падпісаны Мемарандум аб узаемаразуменні паміж Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і Нацыянальнай бібліятэкай Кітайскай Народнай Рэспублікі. Нацыянальная бібліятэка нашай краіны ўключана ў склад праграмы «Акно ў Кітай» і на працягу пяці бліжэйшых гадоў атрымае ў дарунак вялікія калекцыі кітайскіх выданняў. Першая калекцыя склала 3,2 тысячы экземпляраў. Гэта і мастацкая, і навукова-папулярная літаратура, і фотаальбомы. Паколькі існуе моўная перашкода, нацыянальныя бібліятэкі абедзвюх краін аддаюць перавагу выданням з дадатковымі перакладамі на рускую і англійскую мовы.

• **13 верасня** ў Нацыянальным музее гісторыі і культуры прайшло адкрыццё выставы **«Сучаснае шведскае ювелірнае мастацтва: пашыраная калекцыя»**, арганізаванай дзякуючы намаганням Пасольства Швецыі ў Мінску пры падтрымцы Шведскага Інстытута. Усе ахвочыя змогуць яе наведаць да 21 кастрычніка.

• У Гарадской мастацкай галерэі твораў народнага мастака Беларусі Леаніда Шчамялёва **6 верасня** адкрылася выстава вядомага беларускага фатографа Вадзіма Качана «Горад. Імгненне». Больш за 50 работ, створаных 20 гадоў таму, расказваюць наведвальнікам пра сталіцу Беларусі эпохі перабудовы, яе жыхароў, іх знешні выгляд, клопаты і пачуцці, а таксама пра фрагменты гарадской архітэктуры, прыклады грузавога і грамадскага транспарта.

• Адкрыццё выставы скульптур мастакоў Смаленскага рэгіянальнага аддзялення Саюза мастакоў Расіі адбылося ў Віцебску **5 верасня** ў Цэнтры сучаснага мастацтва. У экспазіцыі прадстаўлена каля 50 работ 13 аўтараў, амаль палову з якіх складаюць жанчыны. Наведвальнікі выставы змогуць азнаёміцца з сучасным мастацтвам смаленскіх мастакоў.




# Дзе карані славян?

***У мінскім выдавецтве «Чатыры чвэрці» толькі што пабачыла свет кніга Рышарда Курыльчыка «Славянскі світанак». Гістарычную аповесць польскага пісьменніка пераклаў на беларускую мову Анатоль Бутэвіч.***

Хто ж такі Рышард Курыльчык і пра што ягоная кніга?

Нарадзіўся ў 1945 годзе ў вёсцы Дзедзіна, што ў сучасным Мёрскім раёне. Інжынер-канструктар па адукацыі. Спецыяліст у будаўніцтве электрастанцый, у тым ліку атамных. Акрамя таго – знаны польскі палітык, дзяржаўны дзеяч, працаваў на розных высокіх пасадах, у тым ліку ваяводам Паморскім і Слупскім, намеснікам міністра ў Варшаве.

Ну і нарэшце – Курыльчык вядомы не толькі ў Польшчы пісьменнік. Аўтар гістарычных кніг «Сакрэтныя архівы караля каралёў», «Ерусалім, Ерусалім», «Апошні апостал», «Папа», «Нязломны з Назарэта» і інш. Нездарма яго называюць апошнім з магікан у галіне гістарычнай прозы.




(Заканчэнне на стар. 4)

## Дзеля захавання спадчыны

***Прэзентацыя праекта «Геаграфія традыцыйнага абрадавага фальклору беларусаў у кантэксце сусветнай культурнай спадчыны» адбылася 6 верасня ў чытальнай зале Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў.***

Галоўнай падзеяй мерапрыемства стала перадача гэтай навучальнай установе паслом ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Карэн Сцюарт гранта ў памеры 30 тысячаў долараў. У 2001 годзе Кангрэс Злучаных Штатаў заснаваў спецыяльны Амбасадарскі фонд – прэстыжную праграму па вылучэнні грантаў у падтрымку захавання спадчыны ў краінах усяго свету. «Мы верым, што гэтае пачынанне, якое аб'яднала намаганні розных факультэтаў, студэнтаў і выкладчыкаў універсітэта, адыграе важную ролю ў захаванні надзвычай каштоўнай культурнай спадчыны Беларусі», – зазначыла спадарыня Карэн Сцюарт.

Дырэктар бібліятэкі Аксана Барысаўна Валодзіна пазнаёміла ўсіх прысутных з праектам. Затым выступілі і іншыя яго ўдзельнікі: Міхаіл Іванавіч Кускоў, загадчык кафедры замежных моў, ды Іван Іванавіч Крук, загадчык кафедры этналогіі і фальклору. Ён, у прыватнасці, паведаміў, што атрыманыя грошы пойдуць на экспедыцыі. І што самае галоўнае, матэрыял будзе збірацца пры дапамозе лічбавай тэхнікі, захоўвацца на лічбавых носьбітах інфармацыі. На жаль, але тая вялікая колькасць матэрыялаў, запісаная раней на магнітную стужку, мае ўжо не самую лепшую якасць гучання. Ды і праз нядоўгі час на Беларусі можа перарвацца традыцыя перадачы фальклору, ягонай мудрасці «з вуснаў у вусны». Таму такая дапамога з боку ўрада ЗША своечасовая і вельмі патрэбная.

Напрыканцы прэзентацыі студэнты прадэманстравалі ўсім прысутным выдатныя прыклады нацыянальнага музычнага і песеннага фальклору беларусаў. На што гледачы адказалі шчырымі і гучнымі апладысментамі.

*Наш кар.*





*Наш каляндар*

Публіцыст, празаік і сцэнарыст – гэта (і не толькі гэта) усё пра Алеся Адамовіча, якому нядаўна споўнілася 80 гадоў. Нарадзіўся ён у 1927 годзе ў вёсцы Канюхі на Капыльшчыне; але хутка бацькі пераехалі ў Глушу (Бабруйскі раён). Там і прайшло ягонае маленства, там фармаваўся будучы вядомы пісьменнік. Падчас вайны ў 1943 годзе падлеткам трапіў у партызанскі атрад. Пасля вайны вучыўся на філфаку Белдзяржуніверсітэта, а ў 1953 годзе скончыў аспірантуру, абараніў кандыдацкую дысертацыю. З 1962 года – навучанне на Вышэйшых сцэнарных курсах у Маскве, адначасова ён выкладаў беларускую літаратуру ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце. Літаратурную ж дзейнасць пачаў як крытык. Шырока вядомыя навуковыя працы Адамовіча «Культура творчасці», «Гарызонты беларускай прозы», «Браму скарбаў сваю адчыняю...» Выйшлі таксама рускамоўныя кнігі літаратурнай крытыкі і публіцыстыкі «Выбірай – жыццё», «Нічога больш важнага» ды іншыя.

Яшчэ ў аспірантуры пачаў ён пісаць свой першы раман «Вайна пад стрэхамі». Скончыў яго ў 1960 годзе. Разам з раманам «Сыны ідуць у бой» склаў вядомую дылогію «Партызаны» (паводле яе пастаўлены мастацкі фільм з удзелам Уладзіміра Высоцкага).

Шырока вядомыя таксама аповесць «Карнікі» і дакументальная кніга «Я з вогненнай вёскі...» (у суаўтарстве з Ул. Калеснікам і Я. Брылём), дзе паказаныя велізарныя людскія пакуты, «Хатынская аповесць». Паводле апошняга твора створана п'еса «Вяртанне ў Хатынь», а ў 1985 годзе зняты мастацкі фільм «Ідзі і глядзі». У суаўтарстве з Д. Граніным напісаная «Блакадная кніга».

Пісаў А. Адамовіч не толькі пра вайну, засталіся ягоныя творы пра каханне, пра шлях да асабістага шчасця – «Вікторыя», «Апошні водгук», зборнік апавяданняў і эсэ «Маленне пра будучыню»... Пра ўсёадольнае каханне – і адзін з апошніх твораў Адамовіча «Franz-Паліна» (паводле яго нядаўна таксама зняты мастацкі фільм).

Апошнія гады жыцця Алесь Адамовіч прысвяціў барацьбе супраць прымянення ядзернай зброі, шукаў праўду пра чарнобыльскую катастрофу. Аповесць «Апошняя пастараль» – пра адказнасць чалавека за лёс цывілізацыі ў атамны век (паводле яе Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі «Вольная сцэна» ставіў аднайменны «фантастычны трылер-кліп часоў апакаліпсісу»).

Памёр пісьменнік і грамадскі дзеяч у 1994 годзе. Пахаваны па яго волі на вясковых могілках у роднай Глушы.



*Алесь Адамовіч і Андрэй Сахараў (Масква, 1989 г.)*

## У Глушы будзе музей Адамовіча

*У пасёлку Глуша Бабруйскага раёна, дзе нарадзіўся вядомы беларускі пісьменнік і публіцыст Алесь Адамовіч, у будучым з'явіцца музей.*

*Экспазіцыю пра жыццё Адамовіча, яго творчасць і родную Глушу плануецца размясціць у драўляным будынку былой аптэкі, загадчыцай якой калісьці была маці пісьменніка Ганна Мітрафанаўна. Аптэка ў Глушы зачынілася гадоў дзесяць таму, і нядаўна ўзніклі пагалоскі, што будынак могуць разабраць на дровы. Тады дачка Алеся Адамовіча Наталля прапанавала ўладам адкрыць у былой аптэцы музей. Ідэю падтрымалі ў Бабруйскім райвыканкаме і ў аддзеле культуры Магілёўскага аблвыканкама. Цяпер робіцца перадача будынка аптэкі ад міністэрства аховы здароўя ў камунальную ўласнасць Бабруйскага раёна. Мяркуецца, што ў будучым годзе знойдуцца сродкі, каб адрамантаваць будынак і зрабіць добраўпарадкаванне.*

*Газета «Звязда» (7 верасня 2007 года)*

**Слова старшыні грамадскага аб'яднання «Беларускі фонд культуры» У.А. Гілепа:**

Нейкай не вельмі ўпэўненай і недакладнай выглядае інфармацыя, якую дала ў «Звязду» Алена Казлова. Няўпэўненай – таму што факты, якія яна прывяла, пяцігадовай даўніны, а недакладнай – таму што ў Магілёўскім аблвыканкаме існуе «ўпраўленне», а не «аддзел» культуры; ды і перадача будынка музея цягнецца ўжо больш за пяць гадоў.

Таму інфармацыя «У Глушы будзе музей Адамовіча» выглядае як гэткая «палачка-выручалачка» да 80-годдзя пісьменніка.

Хто ж і калі падтрымаў неабходнасць стварэння музея ў былой аптэцы пасёлка Глуша? Яшчэ задоўга да 75-годдзя Алеся Адамовіча ў міністэрствы культуры і аховы здароўя па ініцыятыве дачкі пісьменніка Наталлі Аляксандраўны пайшлі ліcты «Беларускага фонда культуры» аб неабходнасці і, што важна, магчымасці стварэння музея «Вайна пад стрэхамі», прысвечанага сям'і Адамовічаў.

Быў абмеркаваны склад ініцыятыўнай групы, якую даў згоду ўзначаліць у той час жывы-здаровы Янка Брыль.

Але ж адказаць на пытанне, хто падтрымаў гэтую ініцыятыву з дзяржаўных устаноў, я не бяруся нават зараз. Нейк насцярожана да яе паставіліся і Міністэрства культуры, і мясцовыя ўлады. Толькі сельскі Савет пасёлка Глуша працягваў падтрымліваць ідэю стварэння такога музея.

З таго часу прайшло шмат гадоў, і з публікацыі ў «Звяздзе» мы даведаліся, што пытанне аб стварэнні музея на тым жа самым месцы. Хочацца верыць, што яно скранулася, што аграгарадок Глуша атрымае свой музей Адамовічаў, з якога пачнецца экскурсійны маршрут ад дома, дзе ён жыў, на мясцовыя могілкі, дзе ён пахаваны.

*Вопыт суседзяў*

# Зямля, дзе захоўваюць крыніцы народнай песні

***Кожны народ мае свае нацыянальныя духоўныя святыні. Такім месцам для ўкраінскага народа з'яўляюцца «Казацкія магілы» – месца, дзе ў 1651 годзе на шырокіх палях сёлаў Пляшава і Востраў (Ровенская вобл.) на алтар свабоды Украіны аддалі свае жыцці больш за 30 тысяч казакаў. Тут адбылася адна з самых вялікіх бітваў другога перыяду вызваленчай барацьбы ўкраінскага народа пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага. На гэтым месцы створаны дзяржаўны гісторыка-мемарыяльны запаведнік «Поле Берасцейскай бітвы».***

Памяць пра яркае полымя вызваленчай барацьбы ўкраінскага народа жыве і сёння ў казацкіх песнях, легендах, баладах.

Менавіта тут, на казацкай зямлі, адбылося адкрыццё IV Усеўкраінскага фестывалю-конкурсу казацкай песні. Упершыню ў ім прымалі ўдзел украінцы Беларусі – фальклорны ансамбль украінскай песні і абрадаў Мінскага гарадскога аб'яднання ўкраінцаў «Запавіт».

У фестывалі-конкурсе прымалі ўдзел многія вядомыя ва Украіне народныя ансамблі, хоры. Напрыклад, народны вакальны ансамбль «Чумацький шлях» (Крым), мужчынскі вакальны ансамбль з Цярнопальскай вобласці, народны ансамбль «Обрій» (Луганская вобл.), вакальная група «Чумаки» (Харкаўская вобл.), народны ансамбль казацкай песні (г. Дубна, Ровенская вобл.), народны хор украінскай народнай песні «Червона калина» (Рэспубліка Малдова), маладзёжны ансамбль «Гілка» (Польшча) і іншыя шырока вядомыя ва Украіне творчыя калектывы.

Нашым ансамблем была падрыхтавана спецыяльная праграма, у якой былі як украінскія, так і беларускія народныя песні. Л.Н. Пашчанка (мастацкі кіраўнік нашага ансамбля) шмат увагі надавала працы над праграмай, над майстэрствам яе выканання.

Фестываль-конкурс – гэта выпрабаванне для ўсіх удзельнікаў. Мы хваляваліся – нас запрасілі ўпершыню. Упершыню ўкраінцы Беларусі паказвалі сваё ўменне і веданне народнай, асабліва казацкай, песні. Рашэннем журы наш фальклорны ансамбль узнагароджаны Дыпломам I ступені за паспяховае выступленне на IV Усеўкраінскім фестывалі казацкай песні і папулярызацыю твораў нацыянальна-патрыятычнай тэматыкі. Пад час і пасля гала-канцэрта на гарадской плошчы Радзівілава слухачы, жыхары гэтага ўтульнага і шчаслівага для нас горада, удзельнікі фестывалю віталі нас, віншавалі, дзякавалі за ўкраінскія і беларускія песні, якія ім асабліва спадабаліся.

Упершыню ўкраінцы Беларусі на Усеўкраінскім фестывалі атрымалі такое высокае прызнанне. Наш ансамбль выступіў і перад жыхарамі сяла Міхайлаўка, якія з вялікай цеплынёй, шчырымі апладысментамі, а таксама кветкамі віталі нас. Арганізатары падрыхтавалі цікавую культурную праграму. Мы пабывалі ў вядомай Пачаеўскай Лаўры, у Дубенскім гісторыка-культурным запаведніку, у замку XVI стагоддзя князя Астрожскага. Бачылі цудоўныя краявіды роднай для нас Украіны.

Мы ўдзячныя арганізатарам фестывалю за цёплыя, сардэчнае стаўленне да нас, украінцаў Беларусі.

***Удзельнікі фестывалю М. МАТУЛІС, Л. МАРАХОЎСКАЯ, Т. ПАКУШ, І. ШАРАВА, В. ШАРКО***

# З адзнакай годнасці

**15** верасня адзначыў свой шасцідзесяцігадовы юбілей Міхась Шавыркін. Яго імя вядомае ўсім, хто хоць нейкім чынам звязаны з беларускай культурай і асветай. З 1987 года, дваццаць гадоў, ён узначальваў часопіс, які спачатку называўся «Беларуская мова і літаратура ў школе», а цяпер – «Роднае слова». За гэты час ён праявіў сябе як выдатны арганізатар, метадыст, даследчык, збіральнік усяго адметнага на ніве літаратуразнаўства, мовазнаўства, педагогікі, этнаграфіі, фалькларыстыкі. Пры ім часопіс перарос межы метадычнага выдання для настаўнікаў мовы і літаратуры, стаў асяродкам нацыянальнай культуры ўвогуле. У ім змяшчаюцца артыкулы не толькі па філалогіі, але і ў блізкіх да яе сферах, у тым ліку і па краязнаўстве. Пад рубрыкамі «Літаратурнае краязнаўства», «Памятныя мясціны», «Гарады-святыні», «Міжпрадметныя сувязі» змяшчаюцца цікавыя матэрыялы пра родныя мясціны славутых пісьменнікаў, пра літаратурныя і мастацкія музеі, у тым ліку і школьныя, пра архітэктурныя і скульптурныя помнікі Беларусі.

Міхась Шавыркін здолеў заахвоціць да працы ў часопісе не толькі вядомых вучоных, выдатных спецыялістаў у розных галінах ведаў, але і настаўнікаў, якія звычайна не вельмі актыўна супрацоўнічаюць са спецыяльнымі выданнямі нават тады, калі ў іх ёсць пра што апавядаць у галіне літаратурнага краязнаўства, філалогіі, маецца каштоўны метадычны вопыт. Знайсці такіх адданых школе руплівцаў, пераадолець іх баязлівасць перад друкаваным словам, уласцівую ім сціпласць было не проста. Але ў выніку часопіс зрабіўся больш цікавым для настаўнікаў якраз тым, што там друкуюцца іх калегі, дзеляцца сваімі метадычнымі напрацоўкамі, назіраннямі, расказваюць пра свае клопаты і праблемы. Рэдактар і сам час ад часу выступаў у часопісе з грунтоўнымі публікацыямі.



*На фота аўтара: юбіляр з калегам па «Мастацкай літаратуры» Віктарам Гардзеем*

**М**іхась Шавыркін чуйна ставіцца да павеваў часу. Пасля распаду СССР у школьныя праграмы былі ўключаны многія незаслужана забытыя імёны, адкрыліся новыя факты і звесткі з гісторыі, культуры, літаратуразнаўства. Але матэрыялы пра ўсё новае настаўніку даводзілася тады шукаць па разрозненых публікацыях, часта іх і зусім не было. З улікам гэтага часопіс з нумара ў нумар пачаў друкаваць такія матэрыялы. Настаўнікі былі за гэта надзвычай удзячныя. Часопіс не страціў сваёй папулярнасці нават у цяжкія часы інфляцыі, ён выжыў, падпіска на яго настаўніцтвам была добрым апірышчам.

Па ініцыятыве Міхася Шавыркіна рэдакцыя стала сустракацца з настаўнікамі, прыходзячы часам ледзь не ў поўным складзе на сустрэчы, на курсы перападрыхтоўкі, у школы, каб расказаць пра свае планы, выслухаць крытычныя заўвагі, прапановы.

Добрай традыцыяй выдання стала і публікацыя артыкулаў маладых навукоўцаў, многія дзякуючы часопісу набылі і патрэбныя для абароны дысертацыйных прац публікацыі, і вядомасць, і навыкі рэдагавання.

З нумара ў нумар часопіс друкуе пад рубрыкай «Наш каляндар» артыкулы да юбілеяў вядомых пісьменнікаў, вучоных, дзеячоў культуры, расказвае пра іх дзейнасць, прадстаўляе старонкі іх творчасці і ўдзел у іх лёсе.

Што да юбілейнага ўзросту Міхася Шавыркіна, то час, здаецца, нібы не адбіўся на ім. Усё такі ж рухавы, энергічны, дапытлівы, ён і цяпер, на новай пасадзе загадчыка літаратурнай рэдакцыі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», працуе з нязменнай самааддачай, імпэтам, пастаянна ветлівы і ўважлівы да аўтараў, чуйны да іх спраў і клопатаў. Шматлікія сябры ад усёй душы віншуюць Міхася Шавыркіна з юбілеем і жадаюць яму ў добрым здароўі і з заўсёднай натхнёнасцю шчыраваць на ніве культуры і асветы.

***Міхась КЕНЬКА, кандыдат філалагічных навук***

***«Краязнаўчая газета» шчыра далучаецца да натхнёнага слова аўтара публікацыі і сардэчна віншуе Міхася Мікалаевіча з юбілеем, жадае яму захоўваць энергію, жыццёвыя сілы, плённую і навукова-творчую прыстойнасць!***





# Дзе карані славян?

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

***Каб лепш пазнаёміцца з тым, пра што аповесць, прывядзём вытрымкі з уступнага артыкула да кнігі «Яшчэ адно слова пра паходжанне славян» дацэнта кафедры гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Андрэя ПРОХАРАВА. Звяртаючыся да чытача, ён піша:***

«Перад табой – аповесць польскага пісьменніка Рышарда Курыльчыка, прысвечаная самай старажытнай эпосе ў гісторыі славянства. Яна сягае таго часу, калі яшчэ назва “славяне” была схавана сярод шматлікіх племянных назваў у Еўропе. Назва не была вядома “цывілізаваным” народам таго часу, якія стварылі сваю пісьменнасць і пачалі занатоўваць ход гістарычных падзей. Таму этнонім “славяне” не трапіў у гістарычныя крыніцы антычнага свету.

Гэтыя “цывілізаваныя” народы, у тым ліку ў Еўропе на берагах Міжземнага мора, адрознівалі сябе ад варвараў – людзей, якія гаварылі на незразумелай мове, мармыталі – “бар-бар-бар”, не стварылі дзяржаўнага апарату і пісаных законаў, не пабудавалі гарадоў і нават знешне не былі падобнымі на элінаў і рымлян. Можа быць, іх увогуле не цікавілі б варварскія плямёны, калі б не тое, што шматлікія варвары былі пастаянлай пагрозай для кожнай “цывілізаванай” дзяржавы, якой бы магутнай яна ні ўяўлялася. Таму ўсе валадары ад Рымскай да Кітайскай імперы вымушаны былі як мага больш уважліва прыглядацца да бязмежнага варварскага мора. І пра гэта таксама піша Рышард Курыльчык...

У IV – I стст. да н.э. антычны свет з цяжкасцю адбіў напады кельтаў – паўночных лясных варвараў. Скораных Рымам кельтаў змянілі германцы, і ў IV – V стст. н.э. рымляне ўжо не змаглі адбіць іхнія напады. Германцы, сярод іх асабліва остготы і вестготы, знішчылі Заходнюю Рымскую імперыю. Толькі на ўсходзе Міжземнамор’я захавалася Усходняя Рымская імперыя – будучая Візантыя. Яе сталіцай стаў Канстанцінопаль, які ў хуткім часе славяне будуць называць Царградам.

Але пасля поспехаў германцаў сілы лясных плямёнаў зусім не былі вычарпаны. У VI ст. на дунайскіх межах Візантыі ўжо стаяў не менш грозны вораг – славяне. Літаральна праз некалькі стагоддзяў славяне рассяліліся на шыразных прасторах ад Ладажскага возера на поўначы да Пелапанэса на поўдні, ад Адрыятычнага мора на захадзе да Волгі на ўсходзе. У той час славяне ўжо неслі пагрозу і тым германскім народам, якія былі нашчадкамі пераможцаў над Заходняй Рымскай імперыяй і якія засялілі цяпер Заходнюю і Цэнтральную Еўропу, стварыўшы тут свае дзяржавы. Славян лічыла адным з галоўных усходніх ворагаў магутная Франкская імперыя ў VIII – IX стст., а з X ст. – Германская імперыя.

Такім чынам, мы ведаем славян з моманту, калі яны з’явіліся на межах візантыйскага свету і нават пачалі пагражаць яго існаванню. Гэта і звярнула на іх увагу гісторыкаў таго часу. Пра гэта піша і Рышард Курыльчык. Але дагэтуль адной з самых загадкавых праблем застаецца пытанне адкуль і як з’явіліся славяне на гістарычнай арэне.

Вельмі доўгі час славянскія плямёны былі схаваны ў бязмежных прасторах варварскага свету на поўначы ад берагоў Міжземнамор’я. Мы нават не можам дакладна вызначыць момант, калі яны вылучыліся з асяроддзя іншых плямёнаў, калі пачалі выразна адрознівацца ад сваіх бліжэйшых “моўных сваякоў” – германцаў і балтаў. Ці то яны былі далёка ад межаў “цывілізаванага” свету, ці то яшчэ не мелі звычнай для нас назвы “славяне”, ці то проста не цікавілі пыхлівых насельнікаў Міжземнамор’я.

Толькі ў 448 г. н.э. адзін з пасланнікаў візантыйскага імператара Феадосія II да правадыра гунаў Атылы – Прыск Панійскі, з якім вы сустрэнецеся на старонках кнігі, занатаваў, што на сваім шляху яго пасольства правяло адну ноч сярод невядомага племені, якое пачаставала яго сваім напоем – мёдам. Цяпер лінгвісты лічаць, што гэта была першая згадка менавіта славянскага слова ў гісторыі. Але Прыск Панійскі не ведаў этнічнай назвы гэтых людзей. Ён назваў іх “намытымі хвалямі”. Так грэкі звычайна называлі народы, якія не мелі для іх выразнай этнічнай класіфікацыі, былі збродам.

Упершыню сама назва “славяне” сустракаецца толькі з VI ст. н.э. Гісторык Іардан у сваім гістарычным творы “Аб паходжанні і справах гетаў (готаў)”, завершаным у сярэдзіне VI ст., узгадвае этнонім “склавене” (склавіны), які сучасныя навукоўцы аднадушна атаясамліваюць са славянамі. А ўжо праз некалькі стагоддзяў славяне засялялі агромністыя тэрыторыі Еўропы і былі вядомыя на ўсім кантыненце. Да гэтага часу славянская моўная сям’я самая шматлікая ва ўсёй Еўропе...

Ці сапраўды гэты народ настолькі “знянацку” з’явіўся на гістарычнай арэне?..

Гэтую, амаль невырашальную задачу – знайсці карані славян у бязмежным моры еўразійскіх варвараў – і паставіў перад сабой польскі пісьменнік Рышард Курыльчык. Не трэба ставіцца да кнігі Рышарда Курыльчыка як да чыста гістарычнага твора. Перад намі твор менавіта мастацкі, як па сваёй форме, так і па сваім складзе. Пісьменнік спрабуе аднавіць старажытнасць, знайсці ў ёй заканамернасці, а галоўнае – “знайсці славян” там, дзе пра іх яшчэ не гавораць гістарычныя крыніцы. Аўтар спрабуе якраз запоўніць гэтыя лакуны і “белыя плямы”.

Рышард Курыльчык “дае магчымасць” паразмаўляць вядомым аўтарам гістарычных твораў, якія насамрэч з’яўляліся сапраўднымі энцыклапедыстамі, з выбітнымі ўладарамі самых магутных дзяржаў і імперый, кожны з якіх у свой час стварыў палітычную карту свету... Гэта набліжае кнігу польскага пісьменніка да падзей старажытнасці.»

***Так піша пра кнігу Рышарда Курыльчыка «Славянскі світанак» беларускі вучоны. А чытачы могуць адчуць «творчы почырк» пісьменніка з урыўка, які «Краязнаўчая газета» надрукуе ў наступным нумары.***

***Ул. інф.***

Краязнаўцам Беларусі і чытачам „Краязнаўчай газеты" – з пажаданнем поспехаў у вывучэнні гісторыі сваёй краіны і нашай агульнай гісторыі.

Шчыра

Рышард Курыльчык

05. 09. 2007 г.

***Вядомы беларускі мастак-касміст Язэп Драздовіч вельмі любіў вандраваць. Пра гэта нам гаворыць вялікая культурная спадчына, што засталася пасля яго. Шматлікія насценныя дываны і замалёўкі вёсак, гістарычных помнікаў – усё гэта да сённяшняга часу прыцягвае нашу ўвагу.***

***У 1926 годзе беларускі мастак наведаў аднаго сябра, каталіцкага святара, які нёс службу ў Мядзельскім раёне. Імя яго – Казімір Сваяк, а апекаваўся ён парафіяй ў вёсцы Засвір.***

# Нават карціны спадчыну захоўваюць...



Ці мог тады падумаць вядомы мастак аб тым, што менавіта невялікая вёска Засвір з яе прыгожым касцёлам і кляштарам кармелітаў пачатку XVIII стагоддзя натхніць яго на стварэнне цэлай серыі графічных малюнкаў...

А пачалося ўсё з перапіскі Сваяка з Драздовічам. Казімір Сваяк ў 1920-я набываў вядомасць у Заходняй Беларусі як паэт, нават псеўданім ён сабе выбраў не зусім выпадковы – Сваяк (сапраўднае імя Канстанцін Стаповіч). І вось вырашыў ён выдаць кніжку са сваімі вершамі. Драздовіч быў на тыя часы ўжо вядомым мастаком, і Сваяк вельмі хацеў, каб той стаў аўтарам ілюстрацый да яго кнігі. Напісаў мастаку ліст, але Язэп Драздовіч у сваім адказе ўстрымаўся (можа, і з-за рэлігійных меркаванняў, можа, і з-за іншых). Кніга паэзіі Казіміра Сваяка пад назвай «Мая ліра» (адзіны прыжыццёвы зборнік паэта) усё ж выйшла, праўда, без ілюстрацый. Але тое знаёмства, хоць і завочнае, не прайшло бясследна. Абодва названыя культурныя дзеячы пазнаёміліся бліжэй, пасля таго як Драздовіч наведаў свайго новага знаёмага – пасябравалі...

Вёска Засвір у той час была не вельмі вялікай. Духоўнае жыццё сялянаў гуртавалася вакол мясцовага касцёла, хоць ён толькі ў 1919 годзе быў зноў вернуты вернікам, бо пасля паўстання 1863–64 гадоў яго зачынілі і перарабілі на царкву. Новы ксёндз быў першым каталіцкім святаром у засвірскім касцёле пасля такога вялікага перапынку.



Мастак – ён на тое і мастак, каб бачыць у звычайным незвычайнае. Вось і Язэп Нарцызавіч не траціў часу дарма. Адной з цікавейшых карцін той пары з’яўляецца карціна пад назвай «Вёска Унукі паблізу возера Свір». На ёй пазначаны год напісання 1927. Вёска на карціне адлюстравана ў сваім першасным выглядзе. Пасля час не пашкадуе яе: многія дамы згараць – на іх месцах узнікнуць новыя, абваляцца студні-жураўлі – і іх закапаюць, замяніўшы новымі... У 1964 годзе вёска Унукі будзе афіцыйна далучана да вёскі Засвір. З таго часу яе назва афіцыйна перастане існаваць (Унукі – у ліку тых назваў паселішчаў, аб памяці якіх клапоціцца «КГ»).

Сённяшні жыхар вёскі Тадэвуш Адольфавіч Худы, гледзячы на малюнак Драздовіча, пазнаў на ім вёску свайго дзяцінства. І зараз з дакладнасцю можна сказаць, адкуль рабіўся малюнак. Падарунак для нашчадкаў, што застаўся нам у выглядзе гэтага графічнага малюнка Я. Драздовіча, з’яўляецца сапраўднай гістарычнай каштоўнасцю.

Тое ж можна сказаць і пра выяву кляштара кармелітаў у Засвіры. Яшчэ больш-менш цэлыя сцены кляштара на фотаздымку 1980-х і ўжо амаль страчаныя сёння. Але на графічным малюнку Драздовіча «Сваякоў ганак» (1926-ы) глядач можа дакладна разгледзець тую частку кляштара, якая, на жаль, больш не захавалася, але якая жыве на карціне. Менавіта па ёй можна меркаваць пра асаблівасці пабудовы кармеліцкага кляштара, а таксама ўявіць, як выглядаў знакаміты Сваякоў ганак, на якім так любіў бавіць час знакаміты паэт. Зараз большасць графічных малюнкаў Язэпа Драздовіча той пары захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі НАН Беларусі і ў Нацыянальным гістарычным архіве Літвы. Доступ да іх, як да каштоўнасці, вельмі абмежаваны. Шкада, што пра сваю спадчыну даводзіцца даведвацца толькі па абрыўках інфармацыі і нешматлікіх крыніцах. А працы для гісторыкаў, краязнаўцаў, этнографаў і фалькларыстаў яшчэ так шмат...

Перада мною – зноў карціна Драздовіча. Вось у празрыстым тумане, здаецца, паволі прачынаецца вёска, чуваць рык кароў, недзе ў далечыні нехта кляпае касу, гаўкае сабака. А тут, ля кляштара, павольна крочыць малады святар. Сёння яму яшчэ пачынаць сваю святую імшу, зноў па-беларуску, у гэты нядзельны сонечны ранак...

Карціны могуць гаварыць...

***Ілья ЛАПАТО***

P.S. *30 верасня падчас візітацыі Яго Экскэленцыі ксяндза-біскупа Антонія Дзям’янкі ў касцёле вёскі Засвір адбудзецца ўрачыстае адкрыццё і асвячэнне памятнай дошкі Казіміру Сваяку, які працаваў у гэтым касцёле з 1920 па 1926 год.*





# Глыбінны

***Сярод тых, хто зрабіў вялікі ўклад не толькі ў беларускую літаратуру, быў непаседлівы, працалюбівы, здаецца, з нястомнай энергіяй і каго, на жаль, не стала, – Максім Танк (Яўген Іванавіч Скурко). Лічу за вялікі гонар, што меў шчасце шматразова бачыцца, размаўляць з ім, у тым ліку і сам-насам на прагулянцы па мінскіх вуліцах, дык спачатку хацелася не столькі сказаць слова пра ягоныя біяграфію і творы (яны досыць грунтоўна вывучаліся ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах), а расказаць пра некаторыя фрагменты тых размоў і майго вялікага ўражання. Ды ўсё ж юбілей Яўгена Іванавіча (яму сёлета 17 верасня было б 95 гадоў) вымагае адкласці на пазней тое асабістае, але паспрабаваць па-свойму падкрэсліць велічнасць асобы, якой быў і ён.***



*Аўтограф знакамітага паэта*

*Фота Анатоля КАЛЯДЫ*

Танк любіў і ўмеў выдатна гаварыць, расказваць пра сваё (не ўсюды і не ўсім адкрываўся, часамі быў недаступны з-за іскрыстых жартаў-экспромтаў). Але калі хто жадае ўзнавіць у памяці, а то, можа, і ўпершыню спазнаць многія дэталі з жыцця Скурко-юнака-паэта-камсамольца і партыйца ва ўмовах Заходняй Беларусі, то адгарніце старонкі кнігі «У суровыя гады падполля (успаміны былых членаў КПЗБ – актыўных удзельнікаў рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі)», выдадзенай у Мінску ў «хрушоўскую адлігу» ў 1958 годзе. Паверце, вас і цяпер глыбока ўразіць, як складваўся жыццёвы і творчы лёс аўтара ва ўмовах паліцэйскай дзяржавы, што паставіла мэтай спаланізаваць «свае ўсходнія крэсы» (супрацьдзеянне маладым людзям атрымаць адукацыю на беларускай мове, нацыянальнае і чалавечае прыніжэнне, пазбаўленне іх свабоды свядомасці і слова, віжаванне, арышты па палітычных матывах, недапушчэнне да беларускамоўных выданняў і інш.). Уразіць і прыклад мужнасці юнага пількаўца з Вілейскага павета (цяпер Мядзельскі раён), які, будучы сынам сялян бежанцаў у Расію (Масква) у час Першай сусветнай вайны, прызвычаіўся да рускай мовы і пасля вяртання на радзіму ў 1922 годзе мусіў працягваць навучэнне на польскай і рускай мовах, а пасля ўсвядоміў сябе па-грамадзянску «стаць на ногі» ўсё ж на падмурку роднай культуры. Гэта падштурхнула яго да шэрагаў заходнебеларускіх камсамольцаў і камуністаў, да СССР і БССР, дзе сярод іншых поспехаў было і «справядліва вырашана нацыянальнае пытанне».

У 1931-м 19-гадовы Яўген саспеў да думкі выдаваць рукапісны часопіс (дарэчы, з маім земляком па Стаўбцоўшчыне, паэтам і мастаком Я. Гарохам), дзе змяшчае і свае вершы (яшчэ не пад унушальным псеўданімам «Максім Танк», але тым не менш таксама цвёрдым – «Граніт»; Максім Танк засведчыўся ў літаратуры ў 1932 годзе ў публікацыі знакамітага свайго твора «Заштрайкавалі гіганты-коміны»). І паспяхова. Адзін з нумараў таго рукапіснага выдання трапляе ў БССР, і творы Граніта ўключаюцца ў ... «Хрэстаматыю заходнебеларускай літаратуры». Не кожнаму так шчасціць: з пачаткоўца – у класікі!

Можа, і гэта натхніла Скурко-Граніта-Танка паімкнуцца ў БССР. Але там, праверыўшы яго («падсылалі да мяне незнаёмых і вядомых мне па прозвішчах “падсадных качак”»), «палітычна» праінструктаваўшы, вярнулі ў Заходнюю Беларусь, дзе яму было даручана выконваць не толькі ролю беларускага паэта, але і, мякка кажучы, «савецкага прагандыста». У вышэйназваных яго ўспамінах, у пазней апублікаваным дзённіку «Лісткі з календара», у размовах ён не асабліва імкнуўся раскрываць тыя тайны, як і па сёння не зусім рассакрэчаныя ў многім вядомыя яму таямніцы роспуску кампартый Польшчы і Заходняй Беларусі, Катыньскай трагедыі... Дазвольце мне сказаць: многія загадкі і для нашага часу Танк панёс з сабой...

Выдатны дзеяч беларускай і сусветнай культуры Рыгор Шырма, які таксама праз розныя перыпетыі прысвяціў свой прыродны дар беларускаму слову, песеннасці, пры першым зручным выпадку займеўшы капейку, ахвяраваў яе і на беларускія справы (спрыяў выданню некаторых беларускамоўных органаў друку). Менавіта з дапамогай Р. Шырмы (і ЦК КПЗБ) у 1936-м быў выдадзены першы зборнік М. Танка «На этапах», які цёпла падтрымалі многія пісьменнікі, у тым ліку і буржуазнай Польшчы. Гэтая падтрымка ратавала Танка ад новых рэпрэсій, забяспечвала поспех ягоным новым творам («Журавінавы цвет», «Нарач», «Пад мачтай»), хоць некаторыя з іх і канфіскоўваліся польскімі ўладамі. Канфіскацыя ягоных твораў дадавала толькі папулярнасці Танку – у Заходняй Беларусі, у Польшчы, у БССР і СССР, у Еўропе. У 1939-м Танк прыбыў у Мінск як выдатны беларускі рэвалюцыйны паэт.

Тут яму прыйшлося суцішыць свой запал («уга, правяралі. Ды яшчэ як па-езуіцку»), пабываць на розных заданнях у час Другой сусветнай вайны ў розных выданнях, што забяспечыла яму магчымасць у няпростых 1948–1967 гадах узначальваць галоўны беларускі грамадска-палітычна і літаратурна-мастацкі часопіс «Полымя», пасля быць кіраўніком Саюза пісьменнікаў Беларусі, выпускаць кнігу за кнігай, быць узнагароджаным шэрагам вышэйшых савецкіх узнагарод і ўрэшце ўдастоіцца на той час і найвышэйшага – у 1974-м атрымаць званне Героя Сацыялістычнай Працы, а за кнігу паэзіі «Нарачанскія сосны» ў 1978-м – Ленінскую прэмію.

Танк напісаў тамы вершаў, паэм, публіцыстыкі, зрабіў мноства перакладаў з многіх літаратур народаў свету. На маю думку, ён ва ўсім вызначыўся глыбіннасцю – прасякненнем у духоўныя запасы як беларускага народа, так і ў сусветныя, здолеўшы ўсё гэта спалучыць у арыгінальны і выдатны сплаў сваёй творчасці.

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***

# На Пятроўскіх могілках

***На паўночнай ускраіне Лепеля, за ракой Улай, знаходзіцца месца пахаванняў нашых продкаў – Пятроўскія могілкі. Магчыма, іх назва пайшла ад імя апостала Пятра. Для могілак выкарыстаны вялікі ўзвышаны ўчастак з пясчаным і супясчаным грунтам. З заходняга і паўночнага боку захаваліся цагляныя слупы ад агароджы, выкананай на сродкі папячыцельства і гарадской управы Лепеля яшчэ ў 1899 годзе. Плошча пахаванняў сто гадоў таму была значна меншай і пашырылася на ўсход і на поўнач да былога Віцебскага тракта. Сёння добра бачна, што старая агароджа злучалася з высокай трохступеньчатай цаглянай брамай, што зачынялася шырокімі, масіўнымі двухстворкавымі дзвярыма ў цэнтры і аднастворкавымі па краях.***

У паўднёвым напрамку ад варот зараз выразна праглядваецца прамавугольная пляцоўка, абсаджаная старадаўнімі (не менш, чым 200-гадовымі) дрэвамі, ужо спілаванымі. Менавіта на гэтым месцы магла стаяць Троіцкая царква, што ўзгадваецца ў дакументах 1808 года. Тады з яе былі вынесены царскія вароты, дзесяць абразоў і выкарыстаны для абсталявання дамавой царквы Праабражэння Гасподняга. На краях царкоўнай пляцоўкі засталося некалькі старых, паўразбураных цагляных помнікаў вышынёй да двух метраў. На іх вымураваны нішы для пліт з надпісамі, што не захаваліся. Зверху праглядаюцца фрагменты жалезных крыжоў. Пры знаёмстве з могілкамі ў першую чаргу кідаецца ў вочы разнастайнасць формаў помнікаў і крыжоў.

На захад ад былой могілкавай царквы пераважаюць пахаванні паводле каталіцкага абраду. Найчасцей тут сустракаюцца магілы з надпісамі на польскай мове. Ёсць і старыя пахаванні, на якіх былі камяні, што ставіліся ў нагах нябожчыкаў, з выявамі крыжоў. Надпісы на помніках датуюцца XVIII – пачаткам XIX стагоддзяў. З 1930-х гадоў амаль усе надпісы зроблены на рускай мове. Ва ўсходнім напрамку ад былой Троіцкай царквы пачынаюцца пахаванні паводле праваслаўнага абраду. Хавалі нябожчыка галавой на захад, надпісы на помніках рабілі з усходняга боку.

Вернікаў розных канфесіяў імкнуліся хаваць асобна. Але нярэдка, як на нашых могілках, пахаванні былі побач.

Тут дарэчы будзе ўспомніць аб адным з самых трагічных расколаў у гісторыі хрысціянства, калі адбылося адпадзенне ад адзінства Усяленскай Царквы заходняй яе часткі на чале з Рымскай кафедрай. Захаваўшы рысы непадзельнай Царквы, рымска-каталіцкая набыла свае асаблівасці ў догмах, канонах, абрадах, у арганізацыі царкоўнага ўпраўлення. Галоўнай супярэчнасцю стала вучэнне аб абсалютнай, аднаасобнай уладзе Папы Рымскага над Царквою. Другім палажэннем з'явілася вучэнне рымска-каталіцкай царквы аб сыходжанні Святога Духа не толькі ад Бога Айца, але і ад Бога Сына, што не адпавядае праваслаўнаму вучэнню аб Святой Троіцы (яно выказана ў Сімвале Веры, прынятым на першым і другім Усяленскіх Саборах, якія адбыліся адпаведна ў 325 годзе ў горадзе Нікеі пры імператары Канстанціне Вялікім і ў 381 годзе ў Канстанцінопалі пры імператары Феадосіі Вялікім. – **Рэд.**). Шмат і іншых разыходжанняў.



*Памяткі мінуўшчыны на старых лепельскіх могілках*

Мінула шмат гадоў пасля расколу хрысціянства ў 1054 годзе. Спрэчкі па зямельных участках, па размежаванні пахаванняў і іншых пытаннях час ад часу ўзнікалі і ў нашым краі. Пра сутыкненні інтарэсаў лепельскіх праваслаўных і каталікоў на аб'яднаных Пятроўскіх могілках у 1901 годзе пісалі нават «Санкт-Пецярбургскія ведамасці» і «Маскоўскія ведамасці», у якіх былі размешчаны па два артыкулы на гэтую тэму.

Кожны дзень на могілках можна сустрэць людзей, што прыйшлі, каб аддаць даніну павагі і ўшанаваць памяць пра памерлых продкаў. Па адносінах да пахаванняў, іх стану і дагледжанасці з упэўненасцю можна сцвярджаць аб узроўні нацыянальнай свядомасці, аб маральным клімаце ў грамадстве.

***Ілья ЯНУШ,***
***краязнавец, г. Лепель***



# 2007: Год Слова Купалы і Коласа



*(Працяг. Пачатак у №№ 3–34)*

18 сакавіка 1921 года для Купалы, як і для ўсяго беларускага народа, быў, мякка кажучы, гаротны, у многім крывава балючы дзень: у сталіцы вольнай Латвіі, якая засцераглася ад кайзераўцаў, экспансіі савецкіх рэвалюцыйных сусветнікаў і хацела ўціхамірыць у сябе «даўні беларускі элемент» (з гэтым не згаджаліся многія выдатныя латышскія дзеячы), быў падпісаны дагавор паміж Польшчай і Савецкімі Расіяй ды Украінай (беларускую дэлегацыю на перамовы не дапусцілі). Па дагаворы Заходнія Украіна і Беларусь адыходзілі да Польшчы, і такім чынам насельнікі гэтых абшараў павінны былі жыць у розных светах, капіталістычным і сацыялістычным, мець розныя магчымасці для свайго культурна-нацыянальнага развіцця.

Купала глыбока перажываў гэтую драму. Ды яго супакойвалі – працэсам беларусізацыі ў Савецкай Беларусі, быццам глыбокімі (ад некаторых беларускіх дзеячаў яны і былі такімі) уважлівымі адносінамі да яго як да гераічнага грамадзяніна і цудоўнага паэта. Не варта лічыць, што Купала спакусіўся на абяцанкі і выгоды, але, думаецца, ён прыняў тактыку «разумнага супрацоўніцтва»: скажам, заканчвае ў красавіку пераклад на беларускую мову «Інтэрнацыянала». Пасля дапрацовак (па французскім тэксце, а з ім памагала разбірацца жонка Уладзіслава Францаўна, якая ведала французскую мову) «Інтэрнацыянал» у Купалавым перакладзе спявалі дэлегаты III Усебеларускага з'езда Саветаў.

Хто ведае, што адчуваў, перажываў тады Янка Купала?

У 1922-м, калі ўжо многае праяснілася па выніках Першай сусветнай вайны, якая, апрача іншага, абудзіла і нацыянальныя пытанні («А хто мы ў хіжых руках?»), калі пасля шматлікіх палітычных міжнародных хітрыкаў і саступак ленінскі ўрад мусіў пайсці на ўтварэнне БССР (нібыта самастойная беларуская дзяржава, а на самай справе «буфер паміж капіталізмам і сацыялізмам»), не магло не ўзнікнуць пытанне: а каго з беларусаў ушанаваць як беларускую асобу, якая можа прадстаўляць Беларусь як дзяржаву?

Зразумела, той бальшавіцкі выбар не мог абмінуць такую гіганцкую асобу, як Янка Купала, які на той час здолеў па-свойму стаць лідэрам, любімцам усіх славянскіх народаў, якія пакутавалі і ад славянскай дэспатыі – лепш сказаць, ад тых, хто хітрыў, злоўжываў славянскай ідэяй дзеля шавіністычных мэт. Будучы славянінам, Купала змоладу адрозніў рэчы: дзе сапраўднае славянства, а дзе гульня (больш – разыграная карта) ва ўсё гэта.

Можа, і таму Купалу так шчыра любілі, ушаноўвалі не толькі ў Беларусі. але і ў Расіі, Украіне, Польшчы, Прыбалтыцы, Германіі, Чэхіі, Югаславіі, за акіянам – у Аўстраліі, Аргенціне, Канадзе, ЗША... Не кожны творца здольны на тое, каб цябе ўшаноўвалі і на Бацькаўшчыне, і на свеце! Як ніхто з беларускіх творцаў, Купала нязмушана мог быць выразнікам дум і пачуццяў кожнага народа, племені ў свеце.

*Уладзімір МАРХЕЛЬ*

## Да маналога Міхала

*Зямля... зямля... туды, туды, брат*
*Будуй яе... ты дай ёй выгляд*
*На новы лад, каб жыць нанова.*
*Якуб Колас*

*Мой родны кут*
*не дзесьці – тут*
*схоў ад пакут,*
*не быць бядзе*
*у ім нідзе:*
*ў сваім куце,*
*як захацеў,*
*я вольны кутнік*
*і не пакутнік;*
*я не гатоў*
*мець шмат кутоў,*
*бо па кутах*
*я ўжо не птах*
*і нат не кутнік,*
*а шматпакутнік,*
*бо пэўна тут,*
*дзе родны кут,*
*здабудзецца пасля*
*і Новая зямля.*



**Міхал на ілюстрацыі В. Шаранговіча да выдання паэмы Я. Коласа «Новая зямля» на трох мовах**
**Кнігу можна набыць у ГА «БФК» (тэлефоны ў Мінску 283-28-24 і 334-42-03)**

# Мінскія адрасы Янкі Купалы

*(Заканчэнне. Пачатак у № 34)*

Толькі 21 студзеня 1919 года паэт зноў трапляе ў Мінск са Смаленска. Селіцца ён у доме № 3 на былой вул. Юр'еўскай. Дом не захаваўся, але, як сведчаць Я. Саламевіч і Я. Шарахоўскі, – гэта прыкладна на месцы Дома ветэранаў (былы палітасветы). У той жа кватэры № 6 пасяліўся і М. Гарэцкі з сям'ёй. Разам сем'і творцаў жылі не вельмі доўга, бо ўжо ў верасні 1919 года, вярнуўшыся ад сястры Леакадзіі з Калісберга, як сцвярджае Я. Шарахоўскі, Янка Купала перабраўся на вул. Кашаровую, д. 10, кв. 6 (вул. Чырвонаармейская, 6), але толькі 11 снежня 1919 года ў пашпарце з'яўляецца запіс, што жыве ён у кватэры № 5. У гэтым жа годзе адбылося знаёмства Я. Купалы з У. Жылкам. На Кашаровай паэт таксама доўга не затрымаўся, таму што ў яго пашпарце адзначана «Явлен в III част[и] г. Минска 26/VII.1920 г. Паспортист». На тагачасных картах Мінска III часць – гэта раён плошчы Перамогі; на Захар'еўскую, 135, кв. 1, у Дом-музей I з'езда РСДРП перасяляецца паэт. Як успамінае Ю. Бібіла, гэта быў дамок «недалёка ад рэчкі, які патануў у зяляніне кустоў», што, верагодна, вельмі імпанавала творцу.



*Стары будынак БДУ (фота 2006 г.)*

Калі ў Мінск пераехаў Якуб Колас, то жыў ён літаральна ў двух кроках ад Я. Купалы – на вул. Старажоўскай, д. 1, кв. 3 (вул. Кісялёва). Паэты хадзілі ў госці адзін да аднаго. 5 студзеня 1923 года ў лісце да жонкі Марыі Дзмітрыеўны, якая гасцявала ў сваякоў, Я. Колас піша: «На Новый год я заходил к Купале. Купала был у меня».



*Дом Купалы (Кастрычніцкая вул., 40), спалены фашыстамі*

Апошні Купалаў дом у Мінску таксама не захаваўся, але можна ўзгадаць тыя адрасы, куды паэт заходзіў па службовых абавязках, у госці да сяброў. Многа страчана незваротна, але захаваліся будынкі Інбелкульта, Нацыянальнай Акадэміі навук, стары корпус БДУ (зараз там месціцца рэктарат) і іншыя, так што тэма «Янка Купала і Мінск» чакае свайго ўдумлівага даследчыка-краязнаўцу.

*Вольга ДЭКОНСКАЯ*

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–34)*

Адзін з палемістаў (Л. Жыцень, ён жа былы нашанівец, драматург, новабальшавік Л. Родзевіч) палічыў патрэбным за сваім подпісам змяшаць малазмяшальнае: маўляў, гэты твор мае натуралістычны характар, немастацкі, ідэалізуе хутарскую гаспадарку, чалавечую адасобленасць. «Твор не нашых і не будучых часоў», – не проста палемічна, а звышідэалагічна заключаў ён, міжволі дэманструючы на сваім вопыце, што ў справе ацэнкі вартасцей літаратуры часамі не шкодзіць пазбягаць не толькі ацэначных ярлыкоў, але і сваіх асабістых поглядаў.

8 ліпеня ў лісце да жонкі Марыі Дзмітрыеўны Колас шчыра радуецца: «Учора я ... закончыў "Сымона-музыку", і, здаецца, закончыў някепска». Пасля гэтага ён страчвае інтарэс да курорцкіх вабнасцей, імкнецца дамоў, да любімай навуковай працы, да сям'і, але... Праз тыдзень пазней, калі ўжо вяртаецца, на станцыі Ціхарэцкая праз адчыненае акно ў вагоне з перона крукам сцягваюць ягоную валізу, дзе ляжаў і рукапіс другой рэдакцыі паэмы «Сымон-музыка»!.. Спачатку з Растова-на-Доне яго суцешылі, што «частка рэчаў і ў тым ліку і рукапіс знойдзены», ды нічога яму не было вернута. Мала, што Колас засмуціўся. У лісце сябру, у якога ў Растове-на Доне ён гасцяваў перад гэтым, ён адчайваўся, прасіў памагчы ў пошуках твора: «Паэма перароблена, а ў мяне ніякіх слядоў ад яе не засталося... Рукапіс гэты выбіў мяне з сядла, дык парупся, браток».

Другі варыянт «Сымона-музыкі» не адшукаўся. І па сёння не вядома: ён стаўся ахвярай вакзальнага зладзюгана альбо прадуманай акцыі па яго выкрадванні і знішчэнні? У жніўні Колас пераадольвае засмучэнні і гаркоту, пачынае трэці раз увасабляць задуму «Сымона-музыкі» – пераглядае, перапрацоўвае канцэпцыю першай рэдакцыі (1911–1918), дзве трэці тэксту піша нанова. Забягаючы наперад, варта зазначыць: гэты варыянт твора захаваўся, але з яго было шмат украдзена з-за цэнзурных меркаванняў. І на сённяшні дзень у «Сымону-музыку», як сведчыць Коласаў малодшы сын, не менш 1500(!!!) розных выняткаў, антыаўтарскіх паправак і змен! Так што і з трэцім варыянтам гэтага твора поўнарадасная сустрэча яшчэ наперадзе.

Напісаў Колас другую рэдакцыю задуманага глабальнага твора – а яе няма. Рукапіс знік самым неверагодным чынам. Можна толькі больш-менш глыбока зразумець, як аўтар перажываў, як мог ён пасля пачуцця заканчэння працы зноў ... прадоўжыць яе альбо пачаць па-новаму... Тое, нават і шчырае, добрае, што толькі ўсклікнулі на ўзлёце, вы можаце адразу ж паўтарыць? Ды яшчэ ў эпічным творы?

І хто пранікнёна, шаноўныя чытачы, можа нават сёння ацаніць тое, што разгублены Колас амаль адразу пасля сваёй асабістай творчай трагедыі піша артыкул «Васемнаццатая гадавіна», прысвечаны нелегальнаму з'езду 9 (22) ліпеня 1906 года, калі свядомыя беларускія настаўнікі хацелі сабрацца разам на яго радзіме, каб паразважаць пра лёс беларускай мовы і школы, а іх ахамутала царская паліцыя?

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*





# З клецкай Сіняўкі – у Лапландыю

***Сіняўка – вядомае на Міншчыне паселішча, вёска ў Клецкім раёне. Стаіць на скрыжаванні дарог, што вядуць на Клецк, Ганцавічы, Слуцк, Івацэвічы. Вядомасць сваю мае з канца XV стагоддзя. Знаходзілася ў складзе Клецкага княства. З 1552 года мястэчка, уласнасць каралевы Боны Сфорца. Гістарычнае, адным словам, паселішча.***

23 верасня 1883 года ў мястэчку, якое тады было цэнтрам воласці Слуцкага павета, нарадзіўся Сяргей Іванавіч Сергель. Можна толькі здагадвацца, якім было дзяцінства хлопчыка. Бацька, Іван Сергель, працаваў валасным пісарам. У 1894 годзе Сяргей паступае ў Магілёўскую гімназію. Чаму менавіта туды, а не ў Нясвіж ці Слуцк, не ў губернскі Мінск? Ізноў жа загадка. Дарэчы, калі б пайшоў вучыцца, прыкладам, у Нясвіж, то яго шляхі немінуча перасякліся б з многімі знакамітымі ў будучым асветнікамі, дзеячамі культуры.

...Пасля заканчэння гімназіі ў Магілёве Сяргей паступае ў Санкт-Пецярбурскі універсітэт, на прыродазнаўчае аддзяленне фізіка-матэматычнага факультэта. Разам з іншымі дакументамі прадстаўляе ў рэктарат наступную даведку: «С. Сергель вследствие действительно большой бедности и неимения решительно никаких средств к жизни, был на время пребывания в Могилёвской гимназии освобождён от платы за учение и получал ежегодные денежные пособия». Ішоў 1904 год. Як сведчаць дакументы, бацькоў у Сяргея не было ўжо ў 1900 годзе. А ў гімназіі ён вучыўся 10 замест 8 гадоў. Вядома ж, прычынай на тое былі нястачы, цяжкасці дзяцінства, юнацтва.

Між іншым, ва універсітэт Сергель прыехаў ужо з пэўнымі прафесійнымі і навуковымі зацікаўленнямі. Яшчэ ў 1903 годзе, калі перайшоў у выпускны клас гімназіі, Сяргей выпраўляецца ў падарожжа на паўночную раку Пячору. Адзін, без сяброўскай падтрымкі, у невядомы край!.. І чаму менавіта на Пячору скіраваліся інтарэсы юнака? У тыя гады Уладзімір Арсеньеў падарожнічае па Паўднёвым Прымор'і і горнай мясцовасці Сіхатэ-Алінь. Леў Берг вывучае возера Балхаш. У Заходнюю Манголію выпраўляецца Рыгор Грум-Гржымайла. У 1899–1901 гадах экспедыцыю ў пустыню Гобі і на Усходні Тыбет узначальвае Пётр Казакоў. Улетку 1903 года па Паміры падарожнічае Мікалай Каржанеўскі. Пэўна ж, юны вандроўнік ведаў пра кагосьці з гэтых вядомых географаў, чытаў у друку. Але ж чаму Пячора апынулася ў полі зроку?..

Сяргей прыязджае ў горад Чардынь. Павятовае паселішча Пермскай губерні. Горад – на правым беразе ракі Колва. Ёсць пэўнае падабенства з вядомым з маленства Клецкам. Хаця і адрозненняў хапае. Тады, у 1903 годзе, у Чардыні жыло амаль 4,5 тысячы чалавек. Жыхары – праваслаўныя. Цэркваў каменных у горадзе ажно 7. Каля Успенскай царквы – каменная капліца, якую пабудавалі на месцы пахавання 85 чалавек, што загінулі ў бітве рускіх з нагайскімі татарамі пад час іх набегу на Чардынь у 1547 годзе.

Чардынь вылучаўся як гандлёвы цэнтр. Гораду належала 6 карпусоў з 50 лаўкамі. Вёўся шырокі гандаль хлебам. Значную частку яго перавозілі праз Чардынь на раку Пячору. Чардынскія купцы вялі гандаль пушнінай, рыбай. Цікавы такі факт: за год толькі з Пячоры ў Чардынь траляла болей за 2 тысячы тонаў прадуктаў. З іх – каля 240 тонаў сёмгі.

Набыўшы лодку, Сергель падымаецца да вярхоўя Колвы. Адтуль волакам перабіраецца да ракі Унья – левага прытока Пячоры. Ракі, якая амаль усе свае 130 км нясе воды паміж прыгожых скал. Мо дзе на вочы гімназісту траплялі кустарныя плавільні-домны, у якіх здабывалі буры жалязняк. А руду з яго на конях перавозілі ў Чардынь. З Уньі падарожнік трапляе ў Пячору, на лодцы даплывае амаль да самых яе вярхоўяў. А назад вяртаецца пешшу, з стрэльбай за плячыма. Дакладней – пешы маршрут скіраваны ў горы паўднёвай часткі Паўночанага Урала.

Паездка на Пячору пазнаёміла Сяргея з ладам жыцця незнаёмых дагэтуль і зусім экзатычных для яго народаў – комі-зыран, манеі, ненцаў, рускіх стараавераў. Пэўна ж, паездка істотна паўплывала на выбар Сергелем далейшага жыццёвага шляху.

З 1904 года Сяргей – студэнт прыродазнаўчага аддзялення фізіка-матэматычнага факультэта Санкт-Пецярбургскага універсітэта. Трэба адзначыць: на аддзяленне, дзе рыхтавалі географаў. У той жа час навукамі ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце авалодвалі будучыя літаратуразнаўца, бібліёграф Уладзімір Княжнін (сапраўднае прозвішча – Івойлаў), крытык Віктар Глікман, гісторык літаратуры Аркадзь Далінін (між іншым, таксама з Беларусі, з Магілёўшчыны, з Мсціслаўскага павета) і многа іншых вядомых па тым часе пісьменнікаў, паэтаў, гісторыкаў.

З кімсьці з іх, несумненна, перасякаліся шляхі і нашага земляка. Жылося Сяргею няпроста. Вымушаны быў зарабляць грошы рэпетытарствам. Было і такое, што ў часіны поўнага безграшоўя даводзілася перапыняць вучобу: не было чым плаціць!.. Але ж якая мэта была! Вывучэнне вопыту папярэднікаў і жывыя падарожжы!

Наладжваецца супрацоўніцтва з Этнаграфічным аддзелам Рускага музея. У лютым 1906 года Сяргей Сергель піша заяву ў аддзел з просьбай выдзеліць яму 1000 рублёў для збору калекцый і этнаграфічнага даследавання зыранскага насельніцтва, якое жыве па берагах рэк, што ўпадаюць у раку Пячору ў сярэднім яе цячэнні.

У сваім звароце ў высокую навуковую інстанцыю студэнт удакладняе, што мяркуемы маршрут і насельніцтва рэгіёна яму знаёмыя. Таму смела бярэ на сябе абавязкі сабраць калекцыі, якія характэрызавалі б асноўныя гаспадарчыя заняткі комі (паляванне і рыбалоўства), жыллё карэннага насельніцтва, хатні побыт, адзенне. Этнаграфічны аддзел пагадзіўся з прапановамі маладога чалавека, разгледзеўшы ў яго асобе настойлівага і адказнага даследчыка: Сергеля залічылі ў лік карэспандэнтаў Музея, выдзелілі неабходныя сродкі.

Вясною 1906 года этнограф адпраўляецца з Волагды параходам да горада Усць-Сысольск. Далей шлях праходзіў па беразе да верхняга цячэння ракі Вычагда. Сергель спадзяваўся знайсці больш цікавае месца для назірання за жыццём зыран.

А ў пачатку чэрвеня 1907 года, праз 10 месяцаў пасля вяртання з экспедыцыі, Сергель выпраўляецца ў новае падарожжа. У Этнаграфічным аддзеле цяпер ужо не сумняваліся ў магчымасцях даследчыка. Акрамя калекцый ад падарожніка ў архіў Рускага музея паступае рукапісная справаздача на 110 старонак «Апісанне зыранскіх пабудоваў у Памоздзінскай воласці Усць-Сысольскага павета Валагодскай губерні» (праца захоўваецца ў архіве Рускага этнаграфічнага музея ў Санкт-Пецярбургу). У 1928 годзе этнограф і краязнаўца выпусціць у Маскве кнігу «У зыранскім краі». З экспедыцыі 1906 года засталіся і цікавыя этнаграфічныя, багатыя на побытавыя дэталі, фотаздымкі.

А новае падарожжа было скіравана да саамаў Нарвегіі і Фінляндыі. Тут варта было б зрабіць некаторае адступленне.

*Хто такія саамы? Іх яшчэ называюць лапары ці саамі. Цяпер гэты народ жыве ў Нарвегіі (прыкладна 30 тысяч чалавек), Фінляндыі (5 тысяч чалавек), на Кольскім паўвостраве ў Расіі (1,9 тысячы чалавек). Мова саамская, складае асобную падгрупу ў фіна-вугорскай групе ўральскай сям'і. Распадаецца на шэраг дыялектаў. Веруючыя саамы ў Скандынавіі – лютэране, у Расіі – праваслаўныя. Мяркуюць, што саамы – нашчадкі старажытнага насельніцтва Паўночнай Еўропы. Хаця ёсць і іншая версія: маўляў, саамы прыйшлі з Усходу.*

Сённяшняя колькасць саамаў з'яўляецца выразным сведчаннем таго, што народ хуткімі (у параўнанні з Вечнасцю!) тэмпамі сыходзіць з нашай Зямлі. І экспедыцыя пачатку мінулага стагоддзя была як ніколі своечасовай!

Тады, напрыканцы XIX – на пачатку XX стагоддзяў, гэта разумелі. Таму і расійская навуковая грамадскасць рупілася як толькі магла. Старанным даследчыкам жыцця саамаў зарэкамендаваў сябе антраполаг, этнограф Давід Аляксеевіч Залатароў (1885–1938). Антрапалагічныя вымярэнні саамаў зрабіў Аляксандр Іванавіч Кельсіеў. Шмат для арганізацыі Лапландскага запаведніка зрабіў натураліст Герман Міхайлавіч Крэпс. Паводле матэрыялаў паездкі на Рускую Поўнач пісьменнік і этнограф Сяргей Максімаў выдаў кнігу «Год на Поўначы». І наш зямляк Сяргей Сергель – далёка не апошні сярод гэтых шчырых і сапраўдных інтэлігентаў.

Значэнне працы, праведзенай Сергелем у пошуках матэрыялаў пра саамаў, было і зараз застаецца (болей як праз стагоддзе!) істотным. Збор маладога па тым часе даследчыка ўключаў самыя розныя этнаграфічныя калекцыі. Кропкай адліку «саамскай» экспедыцыі стаў горад Гамерфест, які знаходзіцца на крайняй Поўначы Нарвегіі. Далей ішло падарожжа па саамскіх паселішчах нарвежскай паўночнай правінцыі Фінмаркен. Матэрыялы, сабраныя нашым земляком, носяць унікальны характар. Нават вертыкальны ткацкі станок з грузам прывёз этнограф у Санкт-Пецярбург. А знайшлося гэтае цікавае прыстасаванне на заходнім беразе Парсангер-фіёрда. Асаблівую цікавасць выклікаюць лыжкі з чыстага срэбра. Іх выкарыстоўвалі ў час святаў і ўрачыстых падзеяў. Альбо былі вясельным падарункам. Лыжкі, датаваныя XVIII стагоддзем, перадаваліся «з роду ў род». Уражанні, назіранні з экспедыцыі да саамаў Сяргей Сергель выклаў у рукапіснай справаздачы – «Паездка да нарвежскіх лапараў». Памер – 197 старонак. Праца захоўваецца таксама ў Рускім этнаграфічным музеі. Выдаў пра тую экспедыцыю этнограф і кнігу – «Год вандроўкі з лапарамі» (Масква, 1927 год).



Біяграфія Сяргея Сергеля мае шмат «белых плям». У 1913 годзе наш зямляк атрымаў пасведчанне аб сканчэнні універсітэта. Вядома, што ў 1915–1916 гадах вучоны працаваў у горадзе Вельску на Валагодчыне – чыноўнікам Удзельнай акругі Міністэрства Імперскага Двара і ўдзелаў. У 1920-я гады выкладаў геаграфію ў Валакаламскім зааветэрынарным тэхнікуме. Захавалася сведчанне з гісторыі гэтай навучальнай установы, дзе Сергель прадстаўлены «вялікім майстрам і энтузіястам экскурсійнай справы». Калі ўлічыць, што час той быў сапраўды «залатым векам» расійскага краязнаўства, Сяргей Іванавіч шукаў магчымасці для самарэалізацыі. Наўрад ці мог даследчык такога маштабу задаволіцца адно экскурсіямі па Валакаламску і ваколіцах. Вядома, што Сергель звяртаўся ў Камітэт Поўначы пры Прэзідыуме ВЦВК з просьбай прызначыць яго краязнаўцам на адну з паўночных культбаз. Ці быў адказ на гэты зварот? Як склаўся лёс даследчыка пасля 1930 года? Ці з'ехаў Сяргей Іванавіч з Валакаламска ў перадваенныя гады, ці застаўся ў горадзе да самага пачатку Вялікай Айчыннай вайны?... Пытанні без адказу.

***У 2008 годзе 23 верасня – 125 год з дня нараджэння Сяргея Сергеля. Мажліва, гэтая дата стане падставай для ўшанавання знакамітага земляка на Клеччыне, на Міншчыне, увогуле ў Беларусі. А імя этнографа, несумненна, будзе ўведзена ў кантэкст беларускіх энцыклапедый і біяграфічных даведнікаў.***

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ*





*Побыт народа комі на здымках пач. XX ст.*

# Хто яна — таямнічая незнаёмка?

*О, мой ласкавы кароль!*
*Як шчыра ты плачаш, я чую...*
*Як бы я ўстала з труны,*
*Каб толькі суцешыць цябе.*
*Я. Сіпакоў «Просьба»*

***Чатыры з паловай стагоддзі жыве ў старажытным горадзе легенда пра прывід Нясвіжскага замка. Сцвярджаюць, што ў 15 хвілін на першую гадзіну ночы таямнічая жаночая постаць пачынае абыход пакояў знакамітага палаца. Яна стогне, усхліпвае, плача па сваім заўчасна загубленым жыцці і вялікім каханні, а ў 15 хвілін на пятую гадзіну раніцы вяртаецца ў сховішча – вялізныя падзямеллі са шматлікімі хадамі, якімі карысталіся ў часы сярэднявечча.***

***Вось што расказваюць у Нясвіжы.***



*Барбара Радзівіл*
*(XVI ст., мармур, паліхромія)*

У сярэдзіне XVI стагоддзя ў Вялікім княстве Літоўскім жыў усемагутны ўладар – слаўны і багаты Мікалай Радзівіл па мянушцы Чорны. У 1547 годзе дамогся для сябе і сваіх родных княжацкага тытула, але на гэтым не заспакоіўся. Мікалай Чорны марыў выйсці з-пад улады польскай кароны і стаць незалежным каралём у самастойным вольным княстве Літоўскім, Рускім, Жамойцкім.

Яшчэ больш узрос уплыў Мікалая Чорнага, калі ён параднiўся з польскім каралём Жыгімонтам Аўгустам праз сваю стрыечную сястру Барбару Радзівіл.

Прыгажуня Барбара жыла ў Вільні. Яна заўчасна страціла бацьку, а неўзабаве і мужа. Палацы-замкі маладой удавы і каралевіча Жыгімонта Аўгуста знаходзіліся побач. Каралевіч не застаўся абыякавым да прыгажосці Барбары. Яны пачалі сустракацца і хутка пакахалі адно аднаго. Перашкодай у іх стасунках была маці каралевіча Бона Сфорца – яна люта ненавідзела «выскачак» Радзівілаў.

Расхваляваўся Мікалай Чорны. Ён сам паехаў у Вільню, каб навесці там парадак. З сабою узяў брата Барбары Мікалая Рудога. Яны патрабавалі ад Жыгімонта канчатковага рашэння: альбо ажаніцца з Барбарай, альбо не сустракацца больш з ёю. Каралевіч паабяцаў, што пакіне горача каханую.

Час ішоў... Жыгімонт зноў захацеў сустрэцца са сваёй любай. У час спаткання закаханых раптоўна з'явіліся браты і запатрабавалі ад Жыгімонта ажаніцца з іх сястрою, таму што ён не стрымаў слова. Каралевіч згадзіўся, але папрасіў, каб шлюб заставаўся таямніцай да часу, калі ён стане ўладаром дзяржавы, інакш не зможа абараніць не толькі Барбару, але і сябе.

Праз некаторы час Жыгімонт Стары памёр. Каралевіча тэрмінова выклікалі ў Кракаў. А тым часам ягоная маці актыўна шукае маладому каралю нявесту. Але з'явілася звестка пра тое, што ў караля ўжо ёсць жонка.

Бона Сфорца робіць усё, каб сейм не каранаваў яе нявестку. Але гэтага не адбылося. Каралева-маці на знак пратэсту пакінула Кракаў і разам са сваёй світай выехала ў Італію на радзіму. Але пакінула таемнага агента з заданнем атруціць ненавісную маладую каралеву. Ён замест патрэбных лекаў прыгатаваў атруту, якая павольна звяла квітнеючую прыгажуню ў магілу. Барбара была каранаваная ў снежні 1550 года, а праз шэсць месяцаў, у маі 1551 года, яе не стала.

Пра вялікае каханне і бязмернае гора Жыгімонта Аўгуста сведчаць шматлікія творы мастацтва, літаратуры. У іх аснову пакладзена і легенда, якая існуе ў розных варыянтах. Вось адзін з іх.

Кароль пасля смерці каханай так сумаваў, што вырашыў пры дапамозе алхімікаў выклікаць яе душу. Зрабіць гэта ўзяліся Твардоўскі і Мнішак – гістарычныя асобы. Усё было падрыхтавана, але каралю сказалі, каб ён не дакранаўся да прывіду. Жыгімонт даў слова, што будзе сядзець спакойна; але, калі з'явілася здань, ад хвалявання забыўся на сваю клятву. Ускочыўшы з крэсла, кінуўся да яе. Пачуўся выбух, пайшоў непрыемны пах – цяпер душа Барбары не магла знайсці дарогу ў магілу, вечна ёй блукаць па зямлі. Вось з таго часу і ходзіць яна сярод людзей, а пасля смерці караля пасялілася ў Нясвіжскім замку. Перад жывымі заўсёды з'яўляецца ў чорным адзенні на знак жалобы па сваім страчаным каханні. У замку лічылі, што прывід папярэджвае гаспадароў, калі ім пагражае якая-небудзь небяспека.

Вось такая цікавая і трагічная гісторыя.

***Юлія МАКСІМОВІЧ,***
***бібліятэкар Навасёлкаўскай сельскай бібліятэкі Нясвіжскага раёна***



*У калажы скарыстана карціна Яна Матэйкі 1867 года*

*Землякі ў свеце*



## Ураджэнцы Беларусі ў Арміі Андэрса падчас Другой сусветнай вайны

*Барыс БАРОЎСКІ*

**(Працяг. Пачатак у № 29–34)**

Дамоў са ссылкі сям'я вярнулася ў сакавіку 1959 г., бо пэўны час вагалася: ехаць дамоў ці да бацькавай сястры ў г. Гданьск. Паколькі хата ў Дамашах была занята іншымі людзьмі, пачалі жыць у чыгуначным вагоне ў Здземелеве, у якім жыла сястра Міхаіла Мікітавіча. З часам пабудавалі ў Здземелеве сабе хату і перайшлі ў яе жыць. Міхаіл Мікітавіч працаваў рабочым у РСУ № 3 аж да выхаду на пенсію. Памёр 21.02.1971 г. Яго жонка працавала прыбіральшчыцай на «Міжрайсельгастэхніцы». Памерла 02.04.1992 г.

Першая жонка Міхаіла Мікітавіча з дачкой і былым партызанам самастойна выехала жыць у г. Усолле Сібірскае Іркуцкай вобласці і засталася там жыць. Яе дачка – Валянціна Міхайлаўна (яна ж дачка і Міхаіла Мікітавіча) выйшла там замуж за расіяніна, знайшла бацьку і з сям'ёй у 1966 г. пераехала жыць у Маладзечна, дзе жыве і зараз.

*(Са слоў сына – Міхаіла Міхайлавіча Кахаprovíча)*

### *Козел Іван Андрэевіч*

Нарадзіўся 07.02.1912 г. у в. Маркава і жыў у бацькоўскай хаце. Ажаніўся з Вольгай Кірылаўнай, якая пераехала да яго жыць. У іх сям'і нарадзіліся дачка Марыя (у 1933 г.) і сын Іван (у 1939 г.). 01.09.1939 г. быў прызваны Польшчай на германа-польскую вайну. На тэрыторыі Украіны трапіў у савецкі ваенны палон, да лістапада 1941 г. знаходзіўся ў лагеры і працаваў на будоўлі шасейных дарог у раёне г. Роўна.

Па амністыі ўступіў у польскую армію. У складзе 2-га польскага корпуса ўдзельнічаў у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Італіі, у тым ліку ў бітве за Монтэ-Касіна (быў шафёрам). Узнагароджаны 2 польскімі (1994 г.) і 4 вялікабрытанскімі (1995 г.) медалямі.

Пасля вайны ў красавіку 1947 г. вярнуўся дамоў да сям'і. У 2 гадзіны ночы 01.04.1951г. у яго хату ўвайшла група людзей: старшыня райвыканкама А.І. Валынец, узброеныя маёр, капітан, 2 салдаты. Зрабілі вобыск і аб'явілі аб высылцы сям'і на спецпасяленне ў Сібір. Канфіскавалі карову, каня, курэй, бульбу, кармы, якія забраў калгас. Дазволілі ўзяць мех мукі, мех бульбы, неабходнае адзенне, якія ў 7 гадзін раніцы пагрузілі на машыну, куды селі Іван Андрэевіч з жонкай і дзецьмі.

На спецпасяленні сям'я жыла ў п. Ягат Усольскага раёна Іркуцкай вобласці спачатку ў будынку школы, затым у бараках, пабудаваных самімі ссыльнымі. Баракі былі драўляныя, кожны на 8 сем'яў. Жыць у іх было вельмі цесна. Іван Андрэевіч працаваў на тралёўцы лесу, затым на будоўлі чыгункі. Яго жонка заставалася хатняй гаспадыняй. Дачка Марыя працавала на будоўлі чыгункі, сын Іван пайшоў у 5 клас школы. Там было галадна і халадна. За ежу вымушаны былі аддаваць хатнія рэчы. З часам пачалі саджаць агарод, бульбу.

Згодна з даведкай на спецпасяленні сям'я знаходзілася па 17.08.1957 г., хаця фактычна была адпушчана ў лютым 1958 г. і дамоў вярнулася 03.03.1958 г. Пасля вяртання з Сібіры на працягу 2 гадоў сям'я жыла ў сваёй хаце ў Маркаве. З-за цеснаты яна была вымушана купіць у Маладзечне хату (па вул. Капуцкага, 10) і у 1961 г. пераехаць жыць у горад. Іван Андрэевіч працаваў у ДРБУ-195, затым грузчыкам у магазіне № 20. Яго жонка ў ссылцы захварэла на цукровы дыябет. Пры гэтым дапамагала суседцы гадаваць дзіця. Памерла 14.03.1978 г. Пасля смерці жонкі Іван Андрэевіч перайшоў жыць да дачкі Марыі Іванаўны, якая ў 1959 г. выйшла замуж і пабудавала з мужам сабе дом па вул. Замкавая, 50. Іван Андрэевіч памёр 10.12.1998 г.

*(Са слоў дачкі – Марыі Іванаўны Адашкевіч, 29.06.1933 г.н.).*

### *Койра Вячаслаў Іванавіч*

Нарадзіўся 10.06.1915 г. і жыў з бацькамі ў в. Чарчонава. Ажаніўся з Браніславай Іосіфаўнай і ў 1941 г. у іх нарадзіўся сын Казімір.

У час Вялікай Айчыннай вайны быў арыштаваны немцамі за сувязі з партызанамі і вывезены ў Германію, дзе зведаў здзекі і пабоі. З Германіі вывозіўся ў Вялікабрытанію, уступіў у армію Андэрса. Пасля вайны вярнуўся дамоў, але жыць прыйшлося ў хаце



***Іван Козел (стаіць) з ссыльнымі на будаўніцтве чыгункі. Іркуцкая вобл., 1953 г.***

бацькоў жонкі, паколькі бацькоўская хата была спалена ў час вайны. Неўзабаве памерла яго жонка і таму ў маі 1950 г. ажаніўся з яе сястрой – Мальвінай Іосіфаўнай.

Па пастанове асобай нарады пры МДБ СССР ад 16.06.1951 г. з жонкай і сынам 24.04.1951 г. быў сасланы на спецпасяленне ў Іркуцкую вобласць (з канфіскацыяй маёмасці). Сям'я жыла ў п. Ягат. Вячаслаў Іванавіч працаваў цесляром, затым матарыстам у леспрамгасе. Жонка заставалася з маленькім пасынкам хатняй гаспадыняй.

У 1953 г. у іх нарадзіўся сын Іосіф. Рашэннем судовай калегіі па крымінальных справах Вярхоўнага суда СССР № 2407-с-54 ад 12.06.1954 г. адменена рашэнне несудовага органа ад 16.06.1951 г. і сям'я вызвалена ад спецпасялення з правам вяртання дамоў.

У ліпені 1954 г. сям'я вярнулася ў в. Чарчонава і жыла ў хаце бацькоў жонкі, была рэабілітавана і атрымала кампенсацыю за канфіскаваную маёмасць. Вячаслаў Іванавіч працаваў рабочым у Вілейскім рыбгасе, затым аж да выхаду на пенсію лесніком Лебедзеўскага лясніцтва. Памёр 23.10.1994 г. Яго жонка была хатняй гаспадыняй. Памерла 03.06.1999 г.

*(Са слоў сына – Іосіфа Вячаслававіча Койры, 09.05.1953 г.н.).*

**(Працяг на стар. 8)**

*(Працяг. Пачатак на стар. 7)*

### *Кудаш Рыгор Кірылавіч*

Нарадзіўся 10.01.1910 г. і жыў у бацькоўскай хаце ў в. Конавічы. Ажаніўся з Анастасіяй Аляксандраўнай Мелюк і ў іх нарадзіліся дзеці: Надзя і Ігнат. Калі пачалася германа-польская вайна, быў прызваны ў польскае войска і адпраўлены на фронт. З 17.09.1939 па 01.09.1941 г. быў саветкім ваеннапалонным і працаваў на ўзвядзенні Кіеўскай аўтадарогі.

Па амністыі 02.09.1941 г. адбыў у п. Тоцкае Арэнбургскай вобласці, дзе ўступіў у польскую армію. Прайшоў праз Іран, Ірак, Палестыну, у званні яфрэйтара (быў ад'ютантам у камандзіра палка) прымаў удзел у баявых дзеяннях у Італіі. У баях за Монтэ-Касіна атрымаў раненне ў галаву і ў шпіталі перанёс трэпанацыю чэрапа. Узнагароджаны брытанскімі (Зорка вайны 1939–1945, Зорка Італіі, медаль 1939–1945) і польскімі (Памятны крыж Монтэ-Касіна, крыж за храбрасць, адзнака за раненне) узнагародамі, адзнакай 3-й стралковай дывізіі.

Пасля заканчэння вайны знаходзіўся ў Італіі, потым у Вялікабрытаніі, адкуль параходам у 1947 г. адправіўся дамоў. Пры пасадцы з вялікабрытанскага на савецкі параход прайшоў дэтальны агляд, дзе ў яго забралі каштоўнасці і частку фотаздымкаў. У час вайны яго хата згарэла, і сям'я часова пражывала у суседзяў, дзе пасяліўся і Рыгор Кірылавіч. Пазней з дапамогай родных яны пабудавалі сабе новую хату, куды пераехалі жыць. Рыгор Кірылавіч пайшоў працаваць у калгас, а потым цесляром на чыгуначнай станцыі Маладзечна. У 1949 г. у сям'і нарадзіўся сын Анатоль, які неўзабаве памёр.

Марыя Козел (дачка І. Козела, цяпер Адашкевіч; чацвёртая злева стаіць у першым шэразе) з ссыльнымі на будаўніцтве чыгункі. Іркуцкая вобл., 1953 г.

Зняволены ноччу з 31 сакавіка на 1 красавіка 1951 г. На зборы далі 3 гадзіны. Хату, хлеў, карову, свіней канфіскавалі. З сабой дазволілі ўзяць толькі самае неабходнае. Трапілі ў г. Усолле Сібірскае Іркуцкай вобласці. Сям'ю пасялілі ў бараку на ст. Ангара. За час дарогі яго дачка Надзея прастудзілася і захварэла на сухоты пазваночніка, аказалася паралізаванай і 2 гады ляжылася ў Іркуцку. Перахварэўшы, яна нанава вучылася хадзіць, стала ніжэйшай на 40 см. Рыгор Кірылавіч працаваў на лесарасрацоўцы, яго жонка была на хатняй гаспадарцы. Сын Ігнат адслужыў у войску і вярнуўся да бацькоў. Дачка Надзея пасля лячэння працавала выхавальніцай у дзіцячым садку, затым на запалкавай фабрыцы.

Рашэннем Вярхоўнага суда БССР ад 18.11.1957 г. сям'я была знята са спецпасялення і вярнулася дамоў. Іх хата была занята іншымі людзьмі, таму яны часова былі вымушаны жыць у суседзяў і зноў будаваць сабе хату. Пасля ссылкі Рыгор Кірылавіч працаваў на чыгунцы, затым мэблевай фабрыцы г. Маладзечна, адкуль пайшоў на пенсію. Памёр у красавіку 1974 г. Яго жонка працавала ў калгасе. Памерла ў 1978 г. Сям'я цалкам рэабілітавана, атрымала кампенсацыю за канфіскаваную маёмасць.

*(Са слоў унучкі – Т.Я. Мажынскай, 27.05.1964 г.н.).*

### *Мураўскі Мікалай Сцяпанавіч*

Нарадзіўся (у 1905 г.) і пражываў у г. Маладзечна (вул.Куйбышава, 43а). Працаваў вартаўніком на вузле сувязі № 1. Пасля нападу Германіі на СССР 23.06.1941 г. з паштовым абсталяваннем і дакументамі быў эвакуіраваны ў г. Арол (Расія). Дома засталася жонка – Алена Варфаламееўна з сынамі Іванам, Мікалаем (памёр у час вайны) і дачкой Лідай. Здаўшы маёмасць, з Арла Мікалай Сцяпанавіч паехаў да роднай сястры ў г. Паўладар (Казахстан) і працаваў у саўгасе.

Як грамадзянін, які да 1939 г. пражываў пад уладай Польшчы, у пачатку 1942 г. ваенкаматам быў накіраваны ў Ташкент для ўступлення ў польскую армію. У складзе 2-га польскага корпуса прымаў удзел у баях у Італіі, у тым ліку ў баях за Монтэ-Касіна (быў шафёрам). Пасля вайны вярнуўся дамоў (у маі 1947 г.), працаваў дворнікам у гарвыканкаме. Летам 1949 г. па даносе жыхара в. Вялікае Сяло (па мянушцы «Галцук»), які, як потым высветлілася, быў сакрэтным супрацоўнікам КДБ, Мікалая Сцяпанавіча выклікалі ў Маладзечанскі аддзел КДБ, правялі допыт і вочную стаўку з даносчыкам (ён заўважыў на Мікалаі Сцяпанавічы добрыя чаравікі і на сваё пытанне даведаўся, што яны амерыканскія) і саслалі на 7 гадоў у турму г. Салікамск, забраўшы 5 яго ўзнагарод за баявыя дзеянні.

Ноччу 01.04.1951 г. арыштавалі яго жонку. Хату, хлеў, карову, кабана канфіскавалі. З сабой у дарогу сям'я ўзяла адзенне, пасцельную бялізну, мех жыта, мех бульбы, пілу і сякеру. Цягніком разам з іншымі ссылаемымі сям'я была прывезена на ст. Усолле Сібірскае Іркуцкай вобласці. Затым трактарам на адкрытых санях па тайзе ссыльных даставілі ў п. Ягат (120 км). Спачатку сям'я жыла ў адзінокім бараку (на 50–60 чал.) на адлегласці 3 км ад п. Ягат, потым у п. Ягат у шматпакаёвым доме, пабудаваным самімі ссыльнымі. Алена Варфаламееўна не працавала. Яе сын працаваў трактарыстам, кранаўшчыком, электрамеханікам на лесарасрацоўцы. Дачка працавала на будаўніцтве чыгункі, затым на лесарасрацоўцы, тут выйшла замуж. У 1953 г. з Салікамска да сям'і ў п. Ягат вярнуўся Мікалай Сцяпанавіч і пачаў працаваць на лесарасрацоўцы.

Пасля шматлікіх хадайніцтваў рашэннем Вярхоўнага суда БССР ад 11.04.1958 г. была адменена пастанова асобай нарады пры МДБ СССР ад 07.07.1951 г. аб высылцы сям'і ў Сібір з рэабілітацыяй і сям'я вярнулася дамоў. У іх хаце пражываў начальнік міліцыі, і таму часова сям'я вымушана была жыць у хаце брата Мікалая Сцяпанавіча. Праз месяц сям'я пераехала ў сваю хату, з часам атрымала кампенсацыю за канфіскаваную маёмасць. Мікалай Сцяпанавіч працаваў рабочым у гаркамгасе, памёр у 1973 г. Яго жонка таксама была рабочай у гаркамгасе, памерла ў 1984 г.

*(Са слоў сына – Івана Мікалаевіча Мураўскага, 03.01.1931 г.н.).*

*(Заканчэнне будзе)*

# Панеслі буслы ў вырай лета...



Зусім нядаўна буслы паважна хадзілі па бяскрайніх палескіх лугах, уважліва аглядалі свае ўладанні. А напрыканцы жніўня амаль кожны дзень збіраліся на птушыную раду, нерухома і маўкліва стаялі, толькі зрэдку абуджаючы наваколле журботна-сумным клекатаннем. На незразумелай для нас мове нешта абмяркоўвалі, вырашалі, рыхтаваліся да цяжкага падарожжа. Пасля дружна ўзляталі, падоўгу кружылі ля самых аблокаў – не спяшаючыся развітваліся з летам.

Адляцелі буслы... Панеслі з сабою ў вырай дзённую спёку і прахалодную ранішнюю расу, схаваныя сярод поймы Гарыні рамонкавыя палі, шматлікія старыцы, азярыны, незлічоныя краскі (ружовыя смолкі і шаркі канюшыны, жоўты кураслеп, фіялетава-блакітны мышыны гарошак), а таксама ціхую гамонку з лагодным ветрам высокіх, амаль у чалавечы рост духмяных траў.

Асірацела і ўжо не так прыветліва глядзіцца палескі прастор, сумуюць, пакінутыя на старых разгалістых дрэвах, на дахах вясковых хат і хлявоў буслянкі.

Адляцелі буслы... Панеслі ў вырай лета...

***Ігар ГРЭЧКА,***
***фота аўтара***



# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

**(Пачатак у № 1 за 2003 г.)**

**ГЕРБЕРШТЭЙН** Сігізмунд (1486 – 1566) – нямецкі дыпламат і падарожнік. Будучы паслом, неаднаразова з праездам у Маскву ў 1517 і 1526 гадах праязджаў і па сённяшніх беларускіх землях (наведаў Брэст, Гродна, Барысаў, Мінск, Віцебск, Оршу). У 1549 г. у Вене выйшлі яго «Запіскі пра маскоўскія справы», дзе ён, апрача асноўнага, што належала яму па дыпламатычных заданнях, па-свойму апісаў побыт, норавы і тагачасных насельнікаў ВКЛ. У прыватнасці, уласна пра Беларусь, пра якую па сваіх, часта асабістых, поглядах выказаў погляды пра яе землеўладанне, земляробства, жывёлагадоўлю, гандаль, павіннасці сялян і самавольства шляхты, па паляванні на цара тутэйшых пушчаў (зубра), паводзіны асобных мясцовых магнатаў. Зразумела, даволі беглае знаёмства Герберштэйна з беларускімі землямі, не можа быць асноўнай крыніцай па іх гісторыка-культурным вывучэнні, але можа даць нямала дадатковых (з пункту гледжання замежніка) ведаў. Самыя дапытлівыя могуць уведаць, што нататкі Герберштэйна друкаваліся ў перакладзе на рускую мову ў 1908 г. пад назвай «Записки о московских делах».

**ГЕРДЗЕНЬ** (? – 1267) – князь полацкі ( з 1264) і нальшчанскі, сын полацкага князя Давыда Расціслававіча (1140–1197; ён удзельнічаў у многіх чарнігава-полацка-смаленскіх міжусобіцах). У 1264 г. Гердзень ад імя Полацкага і Віцебскага княстваў заключыў мірны дагавор з Рыгай і вядомым на той час вострavам Готланд.

Лёс не столькі паходжання, колькі шматлікіх дзеянняў Гердзеня даволі заблытаны. Вядома, што Войшалк (1223 – 1268; сын Міндоўга (1195–1163), якія ўдзельнічалі ў стварэнні ВКЛ з цэнтрам у сённяшнім Навагрудку), па пэўных прычынах («КГ» пра іх пісала не аднойчы) у свой час прыблізіў Гердзеня. Яму была аддадзеная ва ўладанне Нальшчанская зямля, адкуль раней быў выгнаны князь Даўмонт, што ўчыняў шкоды ВКЛ з-за спрэчак з ВКЛ і ўцёк у Пскоў, адкуль, служачы новым гаспадарам, учыняў набегі на Полацкую зямлю. Лічыцца, што Гердзень і загінуў у апошні бай з пярэваратнем Даўмонтам, мог быць бацькам вялікіх князёў ВКЛ Віценя і Гедзіміна.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі:
грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас:
220029, г. Мінск,
вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26,
334 61 62.
Тэл./факс 334-42-03
E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 13.09.2007.
Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14).
Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.

Заказ 1100.
Тыраж 1270 асобнікаў.